І ГЭТА ТАК!

# Гомельскія НАВІНКІ

Жоўтая газетка на роднай мове Лістапад 2013

Першае 100% цалкам беларускамоўнае выданне Гомельскага регіёну

## Gods Tower трапілі ў «World of Tanks»



стар. 2

**Нацыянальная мова = Нацыянальная бяспека**
стар. 2

**Жыхар Гомеля патрабуе з мотаклуб «Начныя ваўкі» 750 мільёнаў кампенсацыі**
стар. 3

**Ды-джэй «замовіў» бацьку і бабулю дзеля спадчыны?**
стар. 6

# Нацыянальная мова = Нацыянальная бяспека

***Апошнім часам шмат прыходзіцца чуць аб баяздольнасці і мадэрнізацыі беларускай арміі, аб розных сумесных вучэннях і іншых паказальных выступленнях беларускіх вайскоўцаў. Пры гэтым рапартуецца, што наша армія самая сучасная і баяздольная і любы вораг будзе разбіты, а перамога будзе за намі.***

Я не вайсковец, а таму не магу казаць праўда гэта ці перабольшванне, бо ў матэрыяльна-тэхнічным і вайскова-стратэгічным кіраванні маю вельмі абмежаваныя веды, як і большасць беларусаў, што з'яўляюцца непрафесійнымі вайскоўцамі. Але ў плане нацыянальна-патрыятычнага выхавання беларускага войска, падаецца, у Беларусі ёсць вялікія праблемы. У свой час мне давялося павярхоўна, але з добрымі прыкладамі вывучаць пабудову Абаронных войскаў Эстоніі. Як не вайсковага спецыяліста, мяне больш за ўсё ўразіла не тое, якую зброю і тактыку мае эстонскае войска, а той патрыятычны дух, што ў ім пануе. Не кажучы аб тым, што ў войску дасягнута атмасфера, калі большасць грамадства падтрымлівае войска і абавязковы прызыў, а маладыя хлопцы хочуць служыць у рэгулярным войску, а 10-50 тысяч грамадзян Эстоніі знаходзяцца ў Кайцэліце (Звяз Абароны, нешта накшталт партызанаў, калі ў кожнага аўтамат і вайсковая форма пад ложкам), кідаецца ў вочы, як ўся сістэма падрыхтоўкі маладых жаўнераў прасякнута духам эстонскай мовы і нацыянльнай гісторыі. Гэта адносіцца ў першую чаргу да таго, што ў войску выкарыстоўваюць толькі эстонскую мову, таму шматлікія хлопцы, што хацелі б у войску служыць, у войска не трапляюць, бо ўзровень мовы іх не самы лепшы, а таксама, што войска будуецца на нацыянальных эстонскіх вайсковых і культурных традыцыях, пачынаючы ад песень і скончваючы формай і назвамі вайсковых падраздзяленняў. У беларускім войску, на жаль з гэтым вялікія праблемы. Мова руская, ідыалогія будуецца на савецкіх і імперскіх прыкладах, форма мала чым адрозніваецца ад савецкай. Як і мысленне, падаецца, не нацыянальнае беларускае, а савецка-інтэрнацыяналістычнае. Але гэта вельмі небяспечна. Калі салдат, а тым больш афіцэр, цалкам і грунтоўна не ўсведамляе сябе беларусам, што зямля, якую ён абараняе яго дом, незалежная дзяржава Беларусь, гэта прадстаўляе вялікую пагрозу для нацыянальнай бяспекі дзяржавы. Бо тэарытычна можа стацца так, што галоўны верагодны верагодны тэарытычны праціўнік-агрэсар можа ўвесці свае войскі ў Беларусь, а перад афіцэрамі і камандзірамі паўстане пытанне - змагацца супраць яго, ці стаць пад яго сцягі, бо мова адна і тая ж, ідыялогія адна і тая ж, і нават атрыбуты і форма падобныя. Таму ўжо зараз і неадкладна трэба па прыкладу эстонскіх абаронных войскаў мадэрнізаваць войска ў ідыялагічным накірунку. Трэба пачаць шырока ўжываць ў войску беларускую мову, вучыць салдат патрыятызму на беларускіх нацыянальных прыкладах, прывесці форму і знакі адрознення ў адпаведнасці з беларускімі нацыянальнымі традыцыямі. Няхай гэта ідыялогія і прапаганда, але для нацыянальнай бяспекі і незалежнасці Беларусі гэта вельмі важна. Бо інакш у выпадку агрэсіі тэарытычнага праціўніка можна страціць дзяржаву без адзінага стрэлу...







*Ігар Случак*

- Ну, як твая замежная мова?
- Размаўляю са слоўнікам.
- А з людзьмі не спрабаваў?

# Жыхар Гомеля патрабуе з мотаклуб «Начныя ваўкі» 750 мільёнаў кампенсацыі

***У Гомелі працягваецца слуханне крымінальнай справы ў дачыненні да трох сяброў мотаклуба «Начныя ваўкі», у тым ліку і лідара Паўла Каніна, вядома ўгорадзе і вобласці чалавека. Слуханні ў судзе Чыгуначнага раёна Гомеля распачаліся яшчэ ў жніўні.***

Справа была заведзена ў студзені 2013 года па арт. 147 Крымінальнага кодэкса — нанясенне цяжкіх цялесных пашкоджанняў. Пасля вечарыны на базе клуба «Начныя ваўкі» жыхар Гомеля атрымаў пашкоджанне вока і страціў зрок.

Пацярпелы сцвярджае, што яго збілі гаспадары клуба — байкеры. Тыя, у сваю чаргу, заяўляюць, што ніхто наведвальніка не біў, той сам напіўся, скандаліў, падаў і недзе такім чынам пашкодзіў вока.

Па сведчаннях пацярпелага, які працуе ахоўнікам на прадпрыемстве «Гомельтранснафта «Дружба», ён прыйшоў на вечарыну ў закрыты клуб байкераў са сваёй жонкай і яе сяброўкай.

Трохі выпілі. Захацелася сфатаграфавацца для гісторыі ў дзівосных інтэр'ерах клуба. Сапраўды, там шмат розных мудрагелістых фігурак з жалеза, але фатаграфаваць іх, па правілах клуба, нельга.

Прычым для выканання здымкаў пацярпелы залез на лаўку са здымачом. Гаспадарам клуба гэта не спадабалася, і яго папярэдзілі пра недапушчальнасць такіх паводзінаў.

Па словах пацярпелага, байкеры яго збілі, і ён трапіў у лякарню, дзе ў яго дыягнаставалі разрыў сятчаткі вока.

Хто менавіта яго біў — малады чалавек не памятае. Як і не памятаюць сведкі з яго боку (жонка і яе сяброўка), якія, аднак, сцвярджаюць, што бачылі, як іх спадарожніка білі тры чалавекі.

Страчаны зрок пацярпелы ацаніў на 750 мільёнаў рублёў — такі памер кампенсацыі заявіў ён у судзе.




Тым часам абвінавачваныя, усе трое, даюць зусім іншыя паказанні. Па іх словах, ніхто наведвальніка клуба не біў, наадварот — яго ўвесь час спрабавалі супакоіць.

«Ён скандаліў, сварыўся са сваёй жонкай, лаяўся, быў у крайняй ступені ап'янення, не мог устояць на нагах. Яго ўжо нават да стойкі бара прыхінулі, а ён усё падаў на асфальтавую падлогу.

У нас у клубе шмат жалезных фігурак з вострымі элементамі. Можа, на іх ён і ўпаў. Яго ледзьве звялі па прыступках на вуліцу, дзе і пакінулі разам з жонкай.

Ён і на вуліцы падаў, на абледзянелай дарозе», — давалі сведчанні ў судзе абвінавачваныя. Па іх словах, пацярпелы лез у бойку, махаў рукамі.

Мотаклуб «Начныя ваўкі» існуе ўжо 12 гадоў. За гэты час у яго сяброў не было праблем з законам. Наадварот — мотаклуб з'яўляецца актыўным удзельнікам гарадскіх і абласных акцый.

На рахунку байкераў — удзел у дабрачынных акцыях, праца з падлеткамі, дапамога дзіцячаму дому, правядзенне спаборніцтваў па мотаспорце.

«Начныя ваўкі» і асабіста Павел Канін маюць шмат падзяк ад мясцовых уладаў і ДАІ. У падтрымку байкераў выступілі арганізацыі, з якімі «Начныя ваўкі» праводзілі сумесныя акцыі: дзіцячыя прытулкі, цэнтры тэхнічнай творчасці, валанцёры.

На ўсе судовыя пасяджэнні падтрымаць «Начных ваўкоў» ходзяць іх сябры і знаёмыя, сваякі, прыязджалі нават байкеры з Мінска і Санкт-Пецярбурга.

Разгляд крымінальнай справы ў судзе працягваецца. Байкерам пагражае па арт. 147 Крымінальнага кодэкса да 15 гадоў пазбаўлення волі.

*Юлія Шымкевіч, Гомель*

Што ты сабе дазваляеш? Неадкладна пачні дазваляць сабе болей!

# П'яныя памежнікі ў кавярні пагражалі зброяй

***У цэнтр скандалу трапілі два ваеннаслужачыя памежнай заставы адзела памежнай службы «Прудок» (Гомель). Супрацьіх завялі крымінальную справу за злоснае хуліганства.***

«16 лістапада падазраваныя справакавалі канфлікт з наведвальнікамі кавярні ў в. Мілошавічы Лельчыцкага раёна, падчас якога пагражалі прымяненнем зброі.

У момант здзяйснення працэпраўнага дзеяння ваеннаслужачыя былі ў стане алкагольнага ап'янення», – паведаміла прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Гомельскай вобласці Марыя Крыванагава.

Памежнікі знаходзяцца ў ізалятары

*nn.by*

# Gods Tower трапілі ў «World of Tanks»

***Славуты мэтал-гурт Gods Tower прэзэнтуе новы самотнік «Roll Out», які выдаецца на вініле ды аўдыёкасэце. Рэліз прызначаны на 4 сьнежня, піша tuzin.fm.***

Яго падтрымлівае кампанія Wargaming, распрацоўшчык сусьветнавядомай кампутарнай гульні World of Tanks.

Менавіта гэтая гульня, распрацаваная між іншым у Беларусі, і натхніла гурт на напісаньне новай кампазыцыі. Лідэр Gods Tower Уладзіслаў Наважылаў (aka Lesley Knife) кажа, што з дапамогай яе ратаваўся пэўны час ад дэпрэсіі, якая напаткала яго ў той час, калі вырашана было адрадзіць каманду.

«Так выйшла, што World of Tanks стала крыніцай натхненьня для першай па-сапраўднаму новай рэчы Roll Out!» — зазначае музыка.

Самотнік было вырашана выдаць на вініле ды аўдыёкасэце. Акром загалоўнага трэку, у рэліз будзе ўключаны нумар «Field of the Dead».

Музыкі ўпэўненыя ў тым, што новыя творы стануць у адзін шэраг зь іхнімі даўнімі баевікамі. У дзень рэлізу самотніка 4 сьнежня ён будзе выкладзены таксама ў сеціве.




Якраз з 4 сьнежня стартуе тур Gods Tower. Цягам месяца яны дадуць сольныя канцэрты ў Віцебску, Магілёве, Гомелі, Менску, Горадні, Вільні, Берасьці, Бранску, Кіеве і Маскве.

Gods Tower адна зь нешматлікіх беларускіх рок-камандаў, якая здолела здабыць сусьветную вядомасьць. Ужо ў сярэдзіне 90-х яны лічыліся заканадаўцамі моды ў постсавецкай мэтал-музыцы.

У 2002 каманда прыпыніла сваё існаваньне, аднак у 2010 вярнулася на сцэну. Gods Tower выконвае песьні выключна па-ангельску, аднак на сваім канцэрце 30 сакавіка 2012 году ў Менску Лэсьлі нечакана для сваіх прыхільнікаў выканаў кампазыцыю «People in the Swamp» на беларускай мове.

*tuzin.fmtuzin.fm*

## У вёсцы ў Гомельскай вобласці шукаюць падпальшчыка — зафіксавана 10 узгаранняў

***У вёсцы Пыхань Веткаўскага раёна са жніўня па лістапад 2013 года зафіксавана дзесяць падпалаў маёмасці. У асноўным гараць стагі сена і саломы, падпалы ўчыняюць невядомыя позна вечарам.***

Як паведамілі ў Веткаўскім РАУС, міліцыя шукае асоб, якія маюць дачыненне да падпалаў, пакуль крымінальныя справы не распачыналіся.

Усе падпалы былі ўчынены на вуліцы Кастрычніцкай.

Першыя падпалы былі зафіксаваны ў жніўні, тады ў адну ноч здарыліся адразу тры пажары. У верасні каля аднаго з дамоў загарэлася сенасховішча.

У адной з жыхарак вёскі сена палілі ўжо тры разы, у яе аднавяскоўца пажар быў двойчы.

У лістападзе блізу аднаго з дамоў загарэўся рулон саломы, агонь перакінуўся на гаспадарчую пабудову.




Міліцыя абяцае ўзмацніць кантроль і робіць захады для вышуку зламысніка.

*БелаПАН*

# Бікіні-мыйка ў Гомелі ўвяла новыя «тэхналогіі»

***Кіравацъ танцоркамі бікіні-мыйкі будзе «каралева стрыптызу», якая працавала ў замежжы з уласным шоу***

Кіраўніцтва «Жоўтай мыйкі» на Карбышава 4 у Гомелі працягвае ўдасканальваць новы сэрвіс — першую ў Беларусі бікіні-мыйку. У пятніцу зацікаўленым журналістам было абвешчана, што пастаноўкай танцавальнага шоу зоймецца прафесійная стрыптызёрша Эльвіра.

Дзяўчына зоймецца пастаноўкай нумароў — гэта значыць, будзе харэографам. Напярэдадні перад гасцямі і журналістамі яна паказала сольны выступ, пасля чаго «памыць» аўто выйшлі іншыя ўдзельніцы калектыву.

Эльвіра распавяла, што забаўляльнымі шоу яна займаецца ўжо больш за дзесяць гадоў, з якіх паўтара года прыйшліся на выступы за мяжой. У Турцыі ў дзяўчыны нават было ўласнае шоу.

За выступленнем з элементамі эротыкі пачалася рэальная мыйка аўтамабіля.

Наступным крокам у развіцці новага сэрвісу павінна стаць ужо анансаванае раней адкрыццё бікіні-мыйкі для аўталэдзі.

У рамках гэтага шоу мыць аўтамабілі будуць прывабныя маладыя людзі.

*odsgomel.org*

Адзін хлопчык зразумеў дзяўчат. Рэшту жыцця ён еў бігмакі і плакаў.

# У Гомелі затрыманы раней тройчы судзімы 16-гадовы ўгоншчык аўтамабіляў

***У Гомелі за ўчыненне ўгонаў аўтамабіляў затрыманы вучань 9-га класа, 16-гадовы мясцовы жыхар. У 2013 годзе ён ужо быў тройчы судзімы за ўчыненне крадзяжоў. Зараз хлопец ўзяты пад варту.***

Як паведамляе аддзел інфармацыі і грамадскіх сувязяў УУС Гомельскага аблвыканкама, у жыхара Гомеля прапаў аўтамабіль «Фіят». Машыну ўдалося знайсці недалёа ад месца ўгону. Выходзячы з паказанняў сведак, стала зразумела, што да гэтага злачынства мелі дачыненне непаўналетнія.

Праз некалькі дзён у Савецкі РАУС Гомеля звярнуўся грамадзянін з заявай аб зніненні аўтамабіля «ВАЗ». У раёнах учыненых злачынстваў былі выстаўлены нарады для ажыццяўлення пошукавых мерапрыемстваў. Позна ноччу ў Заходнім мікараёне Гомеля супрацоўнікі міліцыі звярнулі ўвагу на двух хлопцаў, у аднаго з якіх у руках была каністра. Падчас праверкі ў гэтага ж хлопца была знойдзена аўтамагнітола.

Як сказаў намеснік начальніка Савецкага РАУС Гомеля падпалкоўнік міліцыі Міхаіл Сінельнікаў, затрыманыя былі дастаўлены ў аддзел міліцыі, дзе было ўстаноўлена, што адзін з іх мае дачыненне да ўгону аўтамабіля «ВАЗ», а некалькімі гадзінамі раней учыніў яшчэ і крадзеж магнітолы. У наступным ён указаў месцаразмяшчэнне «ВАЗа», а таксама прызнаўся ва ўгоне аўтамабіля «Фіят».

*БелаПАН*

# П'яныя хлопцы перакрылі вуліцу ў Гомелі, крычалі: "За спецназ!"

***2 лістапада каля 22-й гадзіны яны наладзілі на праезнай частцы каля гасцініцы "Сож" сеанс масавых заняткаў фізкультурай.***

На месца здарэння выехала міліцыя. Чатыры ўдзельнікі "флэшмобу" былі дастаўленыя ў выцвярэзнік, потым іх прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці за з'яўленне ў грамадскім месцы ў нецвярозым стане. У дачыненні да яшчэ пяці ўдзельнікаў фізкультурных заняткаў на дарозе складзены адміністрацыйныя пратаколы за парушэнне правілаў дарожнага руху.

Як патлумачылі затрыманыя, да здарэння яны сядзелі ў рэстаране, пасля чаго вырашылі прадэманстраваць сваю моц, інфармуе БелаПАН.




Адна бабуля ўбачыла, як з гомельскага пад'езда выходзіць прастытутка з наркаманам, і страціла сэнс жыцця.

# Ды-джэй «замовіў» бацьку і бабулю дзеля спадчыны?

***Гомельскі абласны суд штотыдзень і часам нават штодзень слухае справы па артыкуле 139 Крымінальнага кодэксу (забойства). Апошнія гады гэтыя справы здзіўляюць сваім крэшчэнда — жорсткасцю, тупасцю, абыякавасцю і цынізмам.***

Жыхар Гомеля забіў студэнтку за выпадкова кінутыя абразлівыя словы — 102 нажавыя раненні. Найвышэйшая мера пакарання.

Два жыхары абласнога цэнтра жорстка забілі знаёмага студэнта, які пусціў іх летнім дажджлівым вечарам абсушыцца. Затым адкрылі газавыя фаеркі — каб замесці сляды злачынства (і гэта ў дзевяціпавярховым доме!). 25 і 15 гадоў пазбаўлення волі.

Цяпер Следчы камітэт расследуе крымінальную справу па забойстве 19-гадовай жыхаркі Рэчыцы. Дзяўчыну злачынец так зняважыў, што цяжка было нават вызначыць прычыну смерці. Яна памірала ў страшных пакутах.

За два месяцы да дадзенага злачынства Рэчыцу ўскалыхнула яшчэ адно забойства — 23-гадовай студэнткі Мазырскага педагагічнага ўніверсітэта. Абвінавачваны ў злачынстве — яе былы хлапец, грамадзянін Расіі, аднакурснік. Яна з ім не хацела больш сустракацца, таму ён пазверску адпомсціў дзяўчыне.

У гэтыя дні Гомельскі абласны суд распачаў слуханні яшчэ адной рэзананснай «чорнай» справы: забойства 45-гадовага прадпрымальніка і яго маці.

Паводле дадзеных следства, замовіў свайго бацьку і бабулю 20-гадовы на той час дыджэй, а выканаўцам згадзіўся быць яго знаёмы аднагодак.

Цяпер абодва сядзяць на лаве падсудных. Толькі выканаўца «супрацоўнічае са следствам», ахвотна адказвае на пытанні, падрабязна тлумачыць — як планавалася злачынства, як ён забіваў, як хаваў целы забітых.

Замоўца ж не прызнае сваёй віны, усе паказанні свайго знаёмага педантычна запісвае ў нататнік, паводзіць сябе на судзе абсалютна спакойна і адчужана. Доўгія валасы, стылёвая фрызура, модны пінжак, разняволеная пастава — і ніякіх эмоцый на твары…




Такое ўражанне, што дыджэй, зорка нізкапробных правінцыйных клубаў, выпадкова трапіў за шкляную клетку абласнога суда і знаходзіцца тут у якасці пабочнага назіральніка, а ніяк не абвінавачванага.

Канечне, дыджэй гэты «валодае велізарным талентам, можа лёгка і хутка запаліць велізарную аўдыторыю, ён літаральна сам крэатыў, яго выступы не маюць аналагаў». Так пішуць пра абвінавачванага на музычных інтэрнэт-старонках.

Але і справа, сапраўды, у Гомелі яшчэ не мела аналагаў.

А меркаваны выканаўца зусім іншы, гапарскага тыпу — коратка пастрыжаны, у спартыўным гарнітуры.

Што паказаў выканаўца? Жудасць! Яго знаёмы, гэты таленавіты музыка, прапанаваў яму хутка і няблага зарабіць. Жыццё таты 20-гадовы жыхар Гомеля ацаніў у $10 тысяч.

Восеньскім вечарам у канцы лістапада ў гомельскім бары «Галівуд» знаёмыя разважліва дамаўляліся пра дэталі забойства ў стылі нізкапробных галівудскіх баевікоў.

DJ аддаў ключы ад брамкі і хаты свайго бацькі, даў некалькі дзелавых парад. Сам жа застаўся ў «Галівудзе». Як патлумачыў выканаўцу — каб забяспечыць сабе алібі.

Сынок скардзіўся, што бацька яму дае мала грошай, і такім чынам ён вырашыў авалодаць у адзін момант усёй маёмасцю, якая перайшла б яму ў спадчыну: дом, дарагія прэстыжныя аўтамабілі, пракат якіх арганізоўваў прадпрымальнік, грошы.

Дарэчы, ці малады чалавек забыўся на памятную дату, ці адмыслова прызначыў забойства на дзень напярэдадні бацькавага 45-годдзя.

Пра бабулю, якая жыла разам з бацькам, сынок даў такія інструкцыі: калі будзе спаць — не чапаць яе.

Выканаўца ў той час, пакуль дыджэй забаўляўся ў «Галівудзе», пайшоў на «справу», прыхапіўшы малаток. Глыбокай ноччу ён адчыніў ключамі брамку, затым — дзверы ў хату і трапіў на веранду. Тут яго нечакана сустрэў прадпрымальнік, які якраз не спаў.

Забойца асалапеў і пачаў нешта вярзці пра сына Максіма,

## Ды-джэй «замовіў» бацьку і бабулю дзеля спадчыны? Працяг

які даў яму ключы, каб забраць нейкую рэч. Агаломшаны быў і прадпрымальнік, сустрэўшы чужанца ў сваім доме ў тры гадзіны ночы.

Той жа, справіўшыся з неспадзяванкай, перадаў ключы мужчыну і ў тую ж хвіліну стукнуў яго малатком па галаве. Прадпрымальнік адхіснуўся, але не ўпаў.

Пачалася барацьба. У верандзе, затым — у хаце, потым абодва ўваліліся ў ванны пакой і там працягвалі біцца. У выніку неяк гаспадар дома заваліў і прыдушыў нападніка.

Суддзя:
– Падсудны, Вы забілі прадпрымальніка малатком…
Голас з залі:
– Вось сволач!
Суддзя:
– Ціха! У наступны раз вы забілі цясьляра рыдлёўкаю…
– Тэй жа голас з залі:
– Ах, гад, каб ты здох!
Суддзя:
– Ціха!!! І, нарэшце, вы засеклі электрыка сякераю…
– Быдла! Гад! Ведаў бы, задавіў бы!!!
– Суддзя:
– Я разумею ваш гнеў і абурэньне тым, што сатварыў падсудны…
– Ды што вы тамака разумееце! Я ягоны сусед. Жыў побач пяць гадоў. А як прыйду папрасіць малаток, сякеру ці рыдлёўку, дык ён, гад: «Няма!»…

Прачнулася ад шуму бабуля, якую прадпрымальнік папрасіў прынесці нож. Бабуля ж у разгубленасці схапіла закаркаваную бутэльку шампанскага.

Тым часам абвінавачваны вырваўся, выхапіў у старой жанчыны бутэльку і стукнуў па галаве мужчыну. Адштурхнуў бабулю. Тая звалілася на падлогу. Забіў бутэлькай шампанскага мужчыну, затым узяўся за бабулю. «За што?» — толькі паспела спытацца старая.

Ад доўгай барацьбы і атрыманых пашкоджанняў забойцу стала блага. Ён пачаў пісаць смс-паведамленні ды-джэю: маўляў, прыязджай, дапамажы мне. Той аднекваўся, маўляў, сам дасі рады. У выніку ўсё ж замоўца прыехаў.

Убачыў забітую бабулю — і яму стала блага. Але, нічога, вытрымаў. Даў чарговыя інструкцыі выканаўцу. І «памыў рукі», кінуўшы на развітанне, як Пілат: «Глядзі сам». Маўляў, сам разбірайся далей.

Трупы выканаўца пагрузіў у адзін з аўтамабіляў забітага, спрабаваў выехаць на ім — не ўдалося. Перанёс забітых у хату. Сам жа «пажывіўся» там дарагім алкаголем, айфонам, гадзіннікам «Ролекс».

І пайшоў спаць да сябра. Спаў — як пшаніцу прадаўшы, амаль суткі, па яго ж паказаннях. Тым часам замоўца не плакаў, не рваў на сабе валасы, а паехаў у першапрастольную па справах, у матушку Маскву.

Забойца ж пяць дзён яшчэ наведваўся ў хату сваіх ахвяр, выносіў рэчы, якія яму спадабаліся. Нарэшце, праз некалькі дзён пасля злачынства запаліў хату разам з нябожчыкамі.

Блізкіх сваякоў у нябожчыкаў не было (акрамя дарагога сына і ўнука), таму ніхто не схамянуўся, аж пакуль не загарэўся дом. Прыехалі выратавальнікі, знайшлі целы прадпрымальніка і яго маці.

Адразу стала зразумела, што нешта тут не так, не ад непатушанай цыгарэты загарэўся дом. Першым узялі сына. Ён адмаўляў сваю віну. Але былі тэлефонныя перамовы, іншыя прамыя і ўскосныя доказы.

Чым скончацца судовыя слуханні — пакуль невядома. Выканаўца ахвотна адказвае на пытанні суда, падрабязна распавядае пра акалічнасці злачынства… Сваякі ахвяраў у гэтыя моманты горка плачуць у судовай зале, прычым і забойца ж — таксама іх «родная кроў».

Суддзя глядзіць у стол, калі абвінавачваны падрабязна тлумачыць пра малаток, бутэльку шампанскага, як і дзе хаваў трупы, як выносіў алкаголь, айфон, «Ролекс»…

Толькі патэнцыйны замоўца забойства паводзіць сябе спакойна і адчужана.

*Юлія Шымкевіч*

## Унук напаў на бабулю з малатком

**Распачата справа паводле арт. 147 Крымінальнага Кодэкса (нанясенне цяжкіх цялесных пашкоджанняў) да 40-гадовага жыхара Гомеля, які збіў малатком сваю 89-гадовую бабулю.**

Старая жанчына была дастаўлена ў шпіталь з адкрытай чэрапна-мазгавой




траўмай, ударам галаўнога мозгу, пераломам зводу і асновы чэрапа, ранай лобнай вобласці, пераломам касцей носа, шматлікімі ўдарамі твару.

Унук збіў бабулю падчас сваркі.

*naviny.by*

ГумНо СПАРТЫЎНАЕ

# Заўзятары ФК "Гомель" прапаноўваюць байкатаваць наступны сезон хатніх гульняў

***З жорсткай прапановай выступілі фтубольныя "фанатыкі" пасля таго, як міліцыя вырашыла забараніць фанацкі сектар на "Цэнтральным" у папярэднім выглядзе. У заяве яны наракаюць на кіраўніцтва клубу ды федэрацыю, якія не ў стане заступіцца за заўзятараў. Замест 12-13 сектароў прапануеца напаўняць актыўнай падтрымкай кожны раз новы сектар, такім чынам змяшаўшыся са звычайнымі гледачамі і выключыўшы перадузятае стаўленне з боку міліцыі.***

Няўжо вам (нам) не зразумела , што нікому вы не патрэбныя? Няўжо вам (нам) не зразумела , што калі мы самі не будзем змагацца за тое, каб вас (нас) лічылі нармальнымі людзьмі , то нічога не зменіцца? І пастаянна фан-сектар дзейнічае аднастайна і бесплённа – у выпадку любога канфлікту пакідае фан-сектар . Ужо выбачайце , але , шчыра кажучы, гэта больш падобна на маю жонку, якая крыўдзіцца на мяне па нейкай прычыне і сыходзіць у спальню. І пасля парачкі маіх слоў, кшталту "мы разам павінны пераадольваць цяжкасці" , з усмешкай ідзе на міравую. Маўляў , перамагла . Дык гэта я перамог .

Што ж, як кажуць многія прадстаўнікі фан-сектара, цытата «казаць – ня мяшкі варочаць» . Прапаную ад сябе кардынальныя меры. Яны ні ў якім ня падштурхоўваюць да парушэння парадку . Гэтая мера паклікана, каб звярнуць на сябе ўвагу.

Такім чынам, па прыблізных падліках ( "на вока" ) на « 19-20 », « 22-23 » , «3-4 » сектарах можа змясціцца каля 1500 тысяч чалавек ( + / -) . На фан-сектар прыходзіць каля 200 чалавек. Мая ідэя заключаецца ў тым, каб зладзіць байкот НА СЕЗОН . Байкот для 12-13 сектара. Але ! Дамовіўшыся загадзя (!) Масава набываць квіткі на пэўны сектар з тых, якія я напісаў парамі . Гэта значыць , да прыкладу, усе разам набываем квіткі на 20 сектар. Калі ў каго не атрымалася, то на суседні 19. (Як мага бліжэй да 20-га, натуральна). І ўвесь матч «зараджаць » звычайныя крычалкі, якія выкарыстоўваліся на фан-сектары. Само сабой сектара неабходна чаргаваць кожны матч. - кажуць заўзятары на сваёй афіцыйнай старонцы.

*kli4nik.info*

# У Гомелі аўтамабіль упаў з дамкрата ў часе рамонту і насмерць расціснуў гаспадара Трагедыя здарылася 30 кастрычніка.

***Як паведамляе сайт Гомельскага ўпраўлення МНС, 35-гадовы прадпрымальнік рамантаваў уласны аўтамабіль «Dodge Grand Caravan» у сваім гаражы. Легкавік упаў з дамкрата і прыціснуў мужчыну.***

Аўтамабіль быў прыўзняты пры дапамозе дамкрата, у якасці страховочных прылад выкарыстоўваліся знятыя пярэднія колы і сілікатная цэгла, адзначаецца на сайце. У пэўны момант цэгла раскалолася, што і выклікала падзенне легкавіка.

Супрацоўнікі МНС паднялі аўто і вызвалілі пацярпелага праз 8 хвілін пасля выкліку, а хуткая дапамога была на месцы праз 14 хвілін. Але медыкі канстатавалі смерць.

*naviny.by*




M&S MEDIA

Неперыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльная газета
«Гомельскія Навінкі лістапад 2013»
Уладальнік выдання - M&S Media

Заснавальнік: Гуан Карлас
Галоўны рэдактар: Лявон Грос
Галоўны дызайнер: Аляксей Венецыянаў

246006, г. Гомель, вул. Замаева, 69
Рэдакцыя "Гомельскія Навінкі 2013"

Надрукавана на папяровай фабрыцы "ГумНо", г. Клінцы, вул. Мажаеўская, 17б.




Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.

Мы ў сацыяльных сетках:
***vk.com:*** gnavinkicom
***facebook.com:*** spravavodstva
***Вольга Пыхава:*** http://vk.com/volha_pyhava

Наш ***e-mail:*** gnavinki@gmail.com
Наш ***сайт***: gnavinki.com

M&S MEDIA